 

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА

29 СТУДЗЕНЯ – 4 ЛЮТАГА 1999 ГОДА
ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ
ЦАНА 10000 РУБЛЁЎ
№5 (197)

## АДНА ЗЯМЛЯ

СМАРГОНЬ

## Рэквіем па дзяржгандлю

Сёлета ў раёне канчаткова мусіць "памерці" дзяржаўны гандаль. Райвыканком зацвердзіў праграму прыватызацыі апошніх дзяржмагазінаў – "Журавінкі", "Усхода", "Гандлёвага цэнтра", ГУМа, "Маяка". Апрача таго, будуць акцыяніравацца райаграпрамтэхніка і райаграпрамзабеспячэнне.

Праўда, купяць ці не былыя дзяржаўныя магазіны прадпрымальныя людзі – яшчэ пытанне, бо летась праграма прыватызацыі правалілася: дзіцячае кафэ "Казка" у гарадскім парку купіў касцёл св. Міхала Архангела. А на астатнія аб'екты гандлю попыту не было.

*Павел МАКЛЮК.*

ГРОДНА

## Няўрадавыя арганізацыі параіліся і вырашылі

Тут прайшоў другі з"езд Асамблеі дэмакратычных няўрадавых арганізацый Гродзеншчыны, удзел у якім узялі 80 чалавек.

Прынятыя заявы наконт інтэграцыйнай палітыкі прэзідэнта і аб няўдзеле дэмакратычных арганізацый Гродзеншчыны ў выбарах мясцовых Саветаў.

На пасяджэнні абраная Рада Асамблеі. Сярод 15 чалавек два прадстаўнікі нашага рэгёна – смаргонскі юрыст **Алесь Дзергачоў** і старшыня Астравецкага клуба выбаршчыкаў **Іван Крук**.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

АШМЯНЫ

## Назіраць будуць

Больш за трыццаць чалавек узялі удзел у семінары па навучанні назіральнікаў, арганізаваным Усебеларускім клубам выбаршчыкаў разам з Маладзёжнай арганізацыяй "Грамадзянскі форум".

З лекцыямі выступалі **Генадзь Карпенка, Уладзімір Гудзееў і Георгій Куневіч**, якія распавядалі пра палітычную сітуацыю ў краіне, выбарчае заканадаўства, падрыхтоўку да кантролю за выбарамі, а таксама месца і ролю назіральніка ў ходзе падрыхтоўкі і правядзення выбараў.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

СМАРГОНЬ

## Наматалі на 130 мільёнаў

Участак па перамотцы электрарухавікоў ад 0,37 да 40 кілават адкрыў у сябе калгас імя Леніна.

Дзве абмотчыцы **Тамара Казлова і Таццяна Міжгірава** рамантуюць тут электрарухавікі не толькі для свайго калгаса, але і для суседніх гаспадарак. За год яны прынеслі чыстага прыбытку на суму 130 мільёнаў рублёў.

*Павел МАКЛЮК.*



ЗІМА

## Стрыгуць горад




*Студзеньскі дзень на вуліцы Замкавай у Маладзечне.*
ФОТА АЛЯКСАНДРА МАНЦЭВІЧА.

САНЭПІД ІНФАРМУЕ

## Проста... кароста

МАЛАДЗЕЧНА. З 11 па 20 студзеня па горадзе і раёне зарэгістравана 27 выпадкаў вострых кішэчных інфекцый (3 – дызентэрыі сярод дарослых і 24 – гастраэнтэракаліту).

З заразных скурных захворванняў па-ранейшым непакоіць кароста, выяўлена 5 выпадкаў і 2 выпадкі мікраспарыі.

*Віктар БЕЛІК, галоўны ўрач МРЦГіЭ.*



ЖЫЦЦЁ НАШАЕ

## Вілейскія лісы ядуць бярэзінскіх цялушак

ВІЛЕЙКА. Зверасаўгас "Беларускі" купіў забітых электрычным токам кароў калгаса "Любушанскі": 30 тон мяса і 4 тоны субпрадуктаў.

На ферме калгаса "Любушанскі", як паведамлялася ў друку, загінула 264 каровы. На працягу 12 гадзін (ад 17 да 5 раніцы) пры святле аўтамабільных фар тушы патрашылі. Кіраўніцтва калгаса, з дазволу раённых уладаў, хацела здаць мяса на Барысаўскі мясакамбінат. Аднак гэтых кароў небяспечна было пускаць у продаж нават пасля перапрацоўкі: працяглы час яны знаходзіліся, лічы, пад адкрытым небам. Праз 2 гадзіны пасля забою, калі тушы не разбіраць, узнікае кішэчная палачка. Каму яны дастануцца, вырашалася ў Мінску.

У выніку мяса павезлі на Вілейшчыну на корм лісам. Такі заляжалы тавар каштуе звычайна 8–10 тысяч за кілаграм. Але, каб дапамагчы калгасу "Любушанскі", мяса прынялі ў 10 разоў даражэй.

Вызначалася цана, хутчэй за ўсё, ізноў жа на рэспубліканскім узроўні.

*Васіль САВІЦКІ.*

ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА ПУБЛІКАЦЫІ

## Вандалаў асудзілі



АСТРАВЕЦ. У ноч на 1 лістапада на астравецкіх могілках непаўналетнія ўчынілі пагром ("РГ" №46 ад 13 лістапада 1998 года).

У панядзелак у Астравецкім раённым судзе аб'яўлены прыгавор па гэтай справе чатыром непаўналетнім. Суд, які цягнуўся тры дні, прызнаў вінаватымі ў хуліганстве **Сяргея Сянотава** і прызначыў яму тэрмін пакарання ў тры гады і шэсць месяцаў з адбываннем у дзіцяча-папраўчай калоніі. **Дзмітрый Кузьмітовіч** атрымаў тры гады калоніі. Яшчэ двое –**Алег Сатыга і Аляксандр Рынкевіч** атрымалі па два гады пазбаўлення волі, але, дзякуючы нядаўняй амністыі, свой тэрмін зняволення хлопцы правядуць на волі.

Акрамя гэтага, урон ад пагрому за ўсе помнікі склаў больш за 245 мільёнаў рублёў. Бацькі Сяргея Сянотава кампенсавалі ўрон 26 з 27 пацярпелых.

*Алесь СВІРЧУКОЎ.*

ЭКСПРЭС–АПЫТАННЕ МАЛАДЗЕЧАНЦАЎ

***У Маладзечне працуюць філіялы двух сталічных недзяржаўных вышэйшых устаноў – інстытут кіраўніцтва і прадпрымальніцтва і вышэйшая школа кіраўніцтва і бізнесу. Пытанне да гараджанаў гучала так: ці хацелі б вы (ці каб гэта былі вашыя дзеці) атрымаць вышэйшую адукацыю ў Маладзечне?***



***Таццяна Камінская, выхавальнік дзіцячага садка:***

– Зразумела, так, вучыцца ў Маладзечне зручней як студэнтам, так і бацькам. Рабятам будзе лягчэй і прасцей – не трэба далёка ездзіць, менш клопатаў з прыгатаваннем ежы, мыццём адзення, ды і пад наглядам бацькоў.



***Вікторыя, прадавец:***

– Хутчэй за ўсё, не. Сама б палічыла за лепшае вучыцца ў Мінску – гэта новае месца жыхарства, новыя твары, ды і больш самастойнае жыццё, ужо будзеш больш разлічваць сам на сябе, у выніку чаго набярэшся больш жыццёвага вопыту.




***Міхаіл, дырэктар фоталабараторыі Кодак–Экспрэс:***

– Што тычыцца дзяўчат, то, па–мойму, лепш вучыцца бліжэй да дома, хлопцам бы я раіў вучыцца далей, так бы мовіць, няхай сабе больш шышак на лбе набіваюць, жыццю вучацца, гэта ж будучыя мужчыны.



***Браніслаў, фатограф:***

– Разам з усімі перавагамі і зручнасцямі вучобы бліжэй да дома, я палічыў бы за лепшае аддаць сваіх сыноў у Мінск. У нас толькі адна праблема – невялікі выбар прафесій, хацелася б, каб у нас усё больш адкрывалася вышэйшых навучальных устаноў разнастайных накірункаў.



***Саша, эканаміст:***

– Так, хацеў бы, таму што, на мой погляд, вучыцца па месцы жыхарства прасцей і зручней – менш клопатаў з жыллём, харчаваннем, менш ідзе часу на язду.



***Жанна Трус, бухгалтар:***

– Бясспрэчна, так, бо калі дзеці на вачах, то і нам, бацькам, спакайней, менш хвалявання і турбот, толькі складанасць у тым, што ў нас у Маладзечне невялікі спектр выбару прафесій або ўстаноў, дзе можна атрымаць вышэйшую адукацыю.

ФОТААПЫТАННЕ ВІТАЛЯ ПАЗНЯКЕВІЧА

 

КУЛЬТУРА

## У Надзеі Лісавай ёсць шмат нажніц

РАДАШКОВІЧЫ. У актавай зале ТАА "Белмастацкераміkі" ўшанавалі юбіляраў. Гэтае прадпрыемства, дарэчы, вызначаецца тым, што на культурнае жыццё тут не забываюцца.

Для юбіляраў арганізавалі конкурсную праграму, якая ўключала ў сябе выступленне ансамбля "Выхадны дзень", жарты, розыгрышы.

Культмасавы арганізатар **Сяргей Кавалевіч** уразіў гледачоў тым, што, на іхнюю просьбу здзейсніць штосьць звышнеардынарнае, стаў на галаву.

Не абышлі ўвагай пераможцаў нядаўніх спаборніцтваў па валейболе, баскетболе, мініфутболе, шашках.

Паралельна прайшоў конкурс вядучых вечара. Галоўны прыз – вялікі набор нажніц – атрымала **Надзея Лісава** (яна працуе на прадпрыемстве). Пераможцу вызначалі па сіле апладысментаў гледачоў.

Наступнае свята (8 сакавіка), магчыма, і будзе весці пераможца.

*Аддзел інфармацыі.*

## Танцуе "Раніца"

ВАЛОЖЫН. На адзін "народны", ці "узорны", творчы калектыў паболела ў раёне. Да такіх далучыўся дзіцячы танцавальны калектыў раённага Дома культуры "Раніца", кіруе якім **Іна Шыбут**.

Цяпер юныя танцоры рыхтуюцца да традыцыйнага раённага свята працы, якое намечана на 19 лютага. А ў барацьбу за званне "узорны" уступіў і духавы аркестр Валожынскай дзіцячай музычнай школы, які таксама радуе шмат гадоў жыхароў раёна духавой музыкай.

*Уладзімір УЛАДЗІМІРАЎ.*

ДА 400–ГОДДЗЯ ВІЛЕЙКІ

## А ў школе музыка гучала...

Вілейская школа мастацтваў (чытай- музычная школа) - адзін з цэнтраў культуры у горадзе. Школа даўно праводзіць свае штогадовыя канцэрты-справаздачы перад гараджанамі. Стануць, відаць, традыцыяй і больш камерныя сустрэчы. Са сваімі выпускнікамі. Апошняя такая сустрэча прайшла 22 студзеня. У зале гучала музыка ў выкананні нядаўніх выпускнікоў, цяпер, у большасці, навучэнцаў музвучылішча імя Агінскага ў Маладзечне. Не менш цікавымі і хвалюючымі былі ўспаміны настаўнікаў і вучняў.



*Адкрыў вечар струнны ансамбль школы, у якім іграюць і вучні, і настаўнікі.*



*Навучэнка Маладзечанскага музвучылішча Алеся Дзержавец.*



*У зале гучыць музыка.*

ФОТА АЛЯКСАНДРА МАНЦЭВІЧА.

## МІНСКІ АБЛАСНЫ ДРАМТЭАТР



## Рэпертуар на студзень

### Ранішнія спектаклі

| | | | |
|---|---|---|---|
| 4 чацвер 10-00 | | | У. Арлоў **«Тата»** (дарослая казка для дзяцей) |
| 17 серада 10-00 | | | С. Казлоў **«Парася, якое спявае, альбо Нельга нам без сябра»** (музычная казка–жарт у 2–х дзеях) |
| 5 пятніца 10-00 | 18 чацвер 10-00 | 26 пятніца 10-00 | А. Якімовіч **"Добры змей"** (незвычайная казка) |

### Вячэрнія спектаклі

| | | |
|---|---|---|
| 3 серада 19-00 | 25 чацвер 19–00 | Франц Ксавер Кроц **"Без мяне мяне ажанілі"** (камедыя ў 2-х дзеях) |
| 5 пятніца 19-00 | 21 нядзеля 17–00 | У. Рудаў **"Камедыя"** (камедыя ў 2–х дзеях паводле твораў К. Марашэўскага і Ф. Аляхновіча) |
| 6 субота 17-00 | 14 нядзеля 17–00 | У. Гібсан **"Двое на арэлях"** (балада пра каханне ў 2-х дзеях) |
| 10 серада 19-00 | 17 серада 19–00 | А. Вампілаў **"Дваццаць хвілін з анёлам"** (правінцыйны анекдот) |
| 11 чацвер 19-00 | | С. Мрожак **"Караль"** (драматычная клаўнада ў 2-х дзеях) |
| 13 субота 17-00 | 24 серада 19–00 | С. Кавалёў **"Саламея і яе амараты"** (споведзь жанчыны/трагікамедыя ў 2–х дзеях) |
| 28 нядзеля 17-00 | | Р. Тама **"Восем закаханых жанчын"** (сямейны дэтэктыў у 2-х дзеях) |

*Мастацкі кіраўнік тэатра – Мікалай Мацкевіч*

Маладзечна, Чкалава, 7, тэл.: адміністратар 61732, каса 52417.

ВЕЧАРЫ

## Дэбют старшыні

ВІЛЕЙКА. У выставачнай зале гісторыка–краязнаўчага музея прайшоў вечар раманса і паэзіі. Спявалі **Наталля Кавальчук, Ігар Балыка, мясцовы бард Уладзімір Старадуб.**

Аднак сапраўднай нечаканасцю стала выступленне са сваімі вершамі старшыні Ільянскага сельвыканкома **Галіны Кутас**.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

ШКОЛА

## Тэхніка для настаўніцы. Электрабытавая

МАЛАДЗЕЧНА. Прайшоў фінал агульнагарадскога конкурсу "Настаўнік года". Удзел бралі настаўніцы пачатковых класаў СШ №1 **Наталля Вяршынская** і СШ №5 **Таццяна Чынакалава**, настаўніца працы СШ №12 **Алена Лабанок** і настаўніца геаграфіі гімназіі **Галіна Дрокіна**.

Перамагла Г. Дрокіна, якая будзе прадстаўляць Маладзечна на абласным конкурсе.

Удзельнікаў узнагародзілі электрабытавой тэхнікай, крышталём.

*Іна ВЯЗЕВІЧ.*

## Важкая кропля жыцця

ВАЛОЖЫН. Работа "Кропля жыцця" **Наталлі Вашкевіч, Наталлі Кавалеўскай, Іны Ваўковіч** адзначаная на міжнароднай выстаўцы ў Гановеры. Гуртоўцы студыі выяўленчага мастацтва цэнтра дзіцячай творчасці пры Багданаўскай СШ атрымалі дыплом і сувеніры.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

ТРАНСПАРТ

## Спачатку было крыўдна, а потым весела

МАЛАДЗЕЧНА. Калі садзішся ў мясцовы гарадскі аўтобус, няма ніякай гарантыі, што павязе ён цябе па маршруце. Я ў гэтым пераканаўся.

У сераду, у 8–30, сеў у "пяцёрку" ля запраўкі. На Старым Месце вадзіцель загадаў пасажырам выйсці, бо аўтобус выклікалі ў парк. Пасажыры за праезд заплацілі, на работу спазняліся, таму вырашылі з салона не выходзіць. Прыйшлося вадзіцелю разам з імі ехаць у аўтапарк.

Ля варот вадзіцель спыніў аўтобус, адчыніў дзверы, зняў нумары маршруту і пайшоў па прызначэнне: куды ехаць далей. Дэманстрацыя працоўных не перайшла ў сілавое высвятленне адносінаў з адміністрацыяй аўтапарка №4, бо пасажыры баяліся далёка адыходзіць ад аўтобуса – а раптам паедзем? Сапраўды, у салон зайшоў іншы кандуктар і пачаў «абілечваць»: аўтобус ідзе па маршруце "двойкі".

Але спачатку "двойка" пайшла на "парашкі". Не даязджаючы да канцавога прыпынку (на першым ад ЗПМ) узяла пасажыраў і павярнула ў цэнтр.

Вядома, пра што гаварылі людзі ў салоне. Мне ж спачатку было крыўдна, а потым весела.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

СМАРГОНЬ

## Стварылі "Сілікатчык"

Гаспадарча–разліковы ўчастак "Сілікатчык" з юрыдычнай самастойнасцю і ўласным разліковым рахункам у банку створаны ў АП "Смаргоньсілікатабетон".

"Сілікатчык" зоймецца закупкай тавараў, нарыхтоўкай сельгаспрадукцыі ў калгасаў, саўгасаў, фермераў, вяскоўцаў і дачнікаў для забеспячэння сваіх работнікаў, будзе пастаўляць прадукцыю у сталовую прадпрыемства, працаваць па бартэры.

## Хоць на Кіпр ды на Канары

Канкурэнцыю дзяржаўнай турыстычнай фірме ў горадзе мусіць скласці ў хуткім часе зарэгістраванае днямі прыватнае прадпрыемства "Саніі трэвел энд трэйд".

Яно мае ў горадзе два юрыдычныя адрасы, адчыніла тут свае прадстаўніцтва, выдзяляе турыстычныя пуцёўкі па ўсім свеце.

Смаргонцы маюць цяпер выбар, былі б толькі грошы.

*Павел МАКЛЮК.*

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## Знайшлі "падснежніка"

ВІЛЕЙКА. У нядзелю раніцой жыхары дома №13 па вуліцы Гагарына ў сваім двары знайшлі труп мужчыны.

Як устаноўлена, 44–гадовы вілейчанін загінуў ад разрыву кішэчніка. Што з ім здарылася, устанавіць пакуль немагчыма – няма сведкаў.

Асноўная версія: ён паслізнуўся і няўдала ўпаў.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

ФЕСТЫВАЛІ

## Селязнёву і Жырыноўскаму маладзечанцы спадабаліся

***Старшыня Дзярждумы Расіі і старшыня вядомай (часам сумна–) палітычнай партыі пляскалі ў ладкі Насці Жук і Аляксандру Салаўёву.***

Дзевяцігадовая Насця і на два гады старэйшы за яе Аляксандр завяршалі дуэтам канцэрт, які прайшоў у Маскве ў канцэртнай зале "Расія". За дзень да гэтага "зорачкі" сталі дыпламантамі ў намінацыі «вакал» на міжнародным фестывалі дзіцячай і юнацкай народнай творчасці "Калядныя канікулы" ў Маскве.

Запрашэнне на фестываль атрымала кіраўнік фальклорнага калектыву "Калядкі" пры музвучылішчы **Зоя Русель**. Летась яе выхаванка **Лідзія Іўчанка** ў сольным спяванні стала лаўрэатам. На гэты раз далі магчымасць паспытаць сябе ў Маскве выхаванцам **Алены Атрашкевіч**. Насця і Аляксандр павезлі за мяжу песні маладзечанцаў: паэтаў **Наталлі Танюкевіч, Людмілы Ляшчэвіч**, кампазітара Алены Атрашкевіч. Цяжка было знайсці грошы на паездку.

У Маскве была магчымасць паглядзець на сябе па тэлебачанні. Канал "Культура", праграмы "Вести", "Столица" вялі рэпартажы з выступленняў юных талентаў. А ў журы на "Калядных канікулах" сядзелі ўсе з прафесарскімі тытуламі; узначальваў "прафесуру", натуральна, таксама прафесар, народны артыст Расіі **Мікалай Калінін**.

Бацькі дыпламантаў адзначылі, што да ўдзельнікаў (узрост 7–16 год) арганізатары ставіліся жорстка. Шмат выплакана слёз. Беларусаў (трэцім прадстаўніком рэспублікі была 13–гадовая піяністка з Мінска) паважалі, можа, таму і не крыўдзілі. На жаль, горад Маладзечна не ведалі. Расіянам тлумачылі так:

– Мінск – Фінберг, ведаеце? А побач Маладзечна. Юрый Антонаў там музвучылішча скончыў.

Пасля фестывалю Насцю Жук і Аляксандра Салаўёва запрасілі вясной у Ніжні Тагіл на міжнародны эстрадны конкурс "Залаты пеўнік".

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

